




# Іскры Ільліча

## У ЛІСТАПАДЗЕ—НАШ ЮБІЛЕЙ

У лістападзе месяцы газэты „Піонэр Беларусі“, „Юнгер Ленінец“ і наша часопісь „Іскры Ільліча“ будуць сьвяткаваць свой 2-х гадовы юбілей. Спаўняецца два гады, як па пастанове 1-га Усебеларускага зьлёту піонэраў пачалі выходзіць гэтыя выданьні.

За гэты невялікі час газэты і часопісь маюць многа дасягненьняў. Яны сталі організатарамі дзяцей працоўных на актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве. Яны многа дапамагаюць у штодзённай рабоце піонэраў, акцябрат, школьнікаў. Таму ня дзіва, што дзесяткі тысяч дзяцей выпісваюць і чытаюць свае газэты і часопісь.

Чым-жа акцябраты і ўсе малодшыя дзеці павінны сустрэць юбілей свае часопісі „Іскры Ільліча“? Якімі падарункамі павінны адзначыць яго?

— Павялічыць свой удзел у соцыялістычным будаўніцтве, больш аддаваць увагі вучобе—вось чым павінны адзначыць нашы чытачы юбілей свае часопісі.

У часопісь яшчэ мала дзяцей самі пішуць дописы. І вось у адзнаку юбілею трэба павялічыць рады дзяткораў часопісі. Пашлем у часопісь больш сваіх допісаў, вершаў, апавяданьняў, малюнкаў.

Зусім мала яшчэ дзяцей выпісваюць і чытаюць часопісь „Іскры Ільліча“. У падарунак да юбілею—павялічым колькасьць чытачоў часопісі. Наша задача: да **юбілею дасягнуць 10 тыс. падпішчыкаў**

**— Піонэры, акцябрата, дзяткоры!** Ваш абавязак узмацніць! работу з часопісьсю, павялічыць у сябе ў атрадзе, групе лік падпішчыкаў.

**— Павадыры, настаўнікі, бацькі!** Вы павінны паклапаціцца аб тым, каб усе дзеці малодшага ўзросту чыталі сваю часопісь „Іскры Ільліча“.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . | 90 к. |
| На 1 год. . | 1 р. 80 к. |

№ 10 кастрычнік 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



## У. І. ЛЕНІН—ПРАВАДЫР РЭВОЛЮЦЫІ



Тав. Ленін заўсёды быў на самых адказных франтох рэволюцыі, сярод працоўных, якіх ён вёў на змаганьне супроць буржуазіі.

На здымку—працоўныя слухаюць свайго правадыра. (З малюнку мастака КУСТОДЗІЕВА).



# Краіне Саветаў—14 год

Гэта было ўлетку 1914 году. Над усім сьветам завіхрыліся грозныя буры надыходзячай навальніцы...

— Божа, цара храні...—надрываліся галасы афіцэраў, папоў, багатых гандляроў, памешчыкаў і капіталістаў. Так сьпявалі ў Маскве, у Санкт-Пецярбурзе, у Менску і ў іншых гарадох тагочаснай Расіі.

— Слава Нямеччыне! Слава Кайзэру!—крычалі людзі ў паліцэйскіх вопратках і іншыя н? іх падобныя.

— На нас напалі рускія!—крычала буржуазія Нямеччыны.

— Немцы абвясьцілі нам вайну і хочуць захапіць нашу бацькаўшчыну!—расьпіналіся ў ляманце буржуазія і яе прыхільнікі ў Расіі.

Так пачалася імпэрыялістычная вайна. **Масы працоўных** Нямеччыны, Англіі, Расіі і іншых краін **былі абманута** і ўцягнуты ў гэтую жудасную сусьветную бойню. Працоўныя ня ведалі сапраўдных прычын вайны. Яны ня ведалі таго, што **вайна патрэбна толькі капіталістам.**

Правадыроў рабочых—камуністаў,—якія выступілі супроць вайны, буржуазія хутка пастаралася пасадзіць у турмы, загнаць у надпольле. Правадыр нямецкага пролетарыяту **Карл Лібкнехт** быў пасаджаны ў турму Кайзэрам у 1914 г., дзе ён прасядзеў аж да 1918 г.

**Капіталісты нажываліся ад вайны**. Усе свае заводы яны перавярнулі ў фабрыкі сьмерці; рыхтавалі на іх зброю і за дарагую цану збывалі для арміі. А працоўныя пакідалі сваіх галодных дзяцей, запусьцелыя



*Прэч буржуяў! Няхай жыве сусьветны Кастрычнік! (Нямецкія піонэры на дэмонстрацыі).*

гаспадаркі ды ішлі паміраць „за бацькаўшчыну“.

**За час вайны на ўсіх франтох было паранена 20 мільёнаў чалавек. З іх больш за 10 мільёнаў засталіся назаўсёды калекамі. 10 мільёнаў было забіта.**

**На трэцім годзе вайны** расійскія **рабочыя і сяляне** ў шэрых салдацкіх шынэлях **паўсталі супроць цара.**

Яны хацелі **міру і хлеба** для галодных. А памешчыкі і фабрыканты хацелі ўсё-ж перамагчы Нямеччыну—уладаць над усім сьветам. Яны нават згодны былі дзеля віду скінуць цара. Цар для іх быў толькі **жывою лялькаю**, якая выпаўняла іх жаданьні. І такую ляльку ня цяжка знайсьці другую. Ня так важна, як яна будзе называцца—цар альбо прэзыдэнт.

**Але рабочыя і сяляне ў шэрых шынэлях многа чаго зразумелі за час вайны.** Яны ўжо ведалі, чаго дамагаецца буржуазія. Цара скінулі, а парадак ад гэтага ані не зьмяніўся.

І вось тады тыя-ж **рабочыя** і тыя-ж **сяляне, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі і яе правадыра т. Леніна,** павярнулі штыхі супроць багатых.



*Нявольнікі капіталу (турма ў фашысцкай Польшчы).*

**Гэта было ў Кастрычніку 1917 году.**

Праз некаторы час нямецкія рабочыя і сяляне таксама паўсталі супроць Кайзэра. Нямецкія капіталісты напалохаліся. Яны ўжо ведалі пра расійскую Кастрычніцкую рэволюцыю і не хацелі страціць свайго панаваньня. І яны згадзіліся на мір, каб зараз-жа расправіцца са сваімі рабочымі і сялянамі—недапусьціць рэволюцыі.

Так скончылася сусьветная бойня.

**Але вайна ў Расіі на гэтым яшчэ ня скончылася.** Буржуазія і ўсе здраднікі працоўных — соцыял-дэмократы, эсэры і інш. разам з замежнымі капіталістамі паўсталі супроць Саветаў. **Толькі-ж** цяпер **у**

**гэтай вайне працоўныя ўжо добра ведалі сапраўдныя прычыны вайны і хто іх вораг.** Чырвоная армія ўпарта і гэраічна абараняла краіну Саветаў. І яна перамагла.

14 год мінула краіне Саветаў. За гэты кароткі час мы пасьпелі ня толькі аднавіць разбураную вайною шматмільённую краіну, але і з посьпехам распачаць **пабудову соцыялізму**.

Буржуазія шалее ад нашых посьпехаў. Ва ўсіх буйных капіталістычных краінах вырас вялізарны нячуваны **крызіс**. Фабрыкі выкінулі на вуліцы **мільёны беспрацоўных.** І адзіны выхад рабочыя бачаць толькі ў зьнішчэньні буржуазіі ды стварэньні сваёй Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Працоўныя ведаюць пра нашу краіну, дзе няма крызісаў, дзе няма беспрацоўя, а ёсьць нячуваны рост і росквіт.

**СССР — бацькаўшчына сусьветнага пролетарыяту, прыклад для ўсіх працоўных.**

Капіталісты з усіх сіл вострацы зброю супроць СССР, рыхтуюць вайну. Але сьвядомыя рабочыя ўсяго сьвету таксама не чакаюць: яны рыхтуюцца, пад кіраўніцтвам комуністычных партый, на апошні і рашучы бой з буржуазіяй.

**Наша чырвоная армія цьвёрда стаіць на варце заваёў кастрычніка.**

На падрыхтоўку вайны мы адказваем капіталістам яшчэ большым узмацненьнем краіны Саветаў, яшчэ большым умацаваньнем яе магутнасьці і абароназдольнасьці.

---

**Акцябраты! ваша задача: дапамагаць піонэрам і комсамольцам у змаганьні за справу Леніна—за соцыялізм.**






# ЖУК

Апавяданьне **Л. Чарняўскай**
Малюнкі **А. Тычыны**

Жук грэўся ў вячэрніх праменьнях веснавога сонейка. Ён раскінуўся на зямлі сваім гладкім чорным целам і драмаў, часам шумна чмыхаючы носам.

Рыпнулі дзьверы з хаты на двор. Жук расплюшчыў адно вока. На ганку стаяў яго малады гаспадар Мікола.

Сабака яшчэ ня мог перасіліць салодкае дрымоты, але ў знак таго, што ён усё чуе і гатоў, калі трэба, служыць гаспадару, застукаў хвастом па зямлі.

Мікола ў задуме стаяў на ганку, зьлёгку прытупваючы аднэй нагой. Потым ён ціханька сьвіснуў.

Жук адразу-ж усхапіўся на ногі.

Мікола вышаў на гарод і павярнуў загуменьнямі, сьцежкаю ў бок лесу.

Жук паслухмяна ішоў за ім сьледам. Такая іхная падарожня была першаю.

Першы раз, як ішлі, Жук, узварушаны подыхамі вясны, кідаўся наперад, убок, нюхаў паветра, макраватую зямлю, але ціхі голас і сьвіст Міколы ўвесь час стрымлівалі яго. Мікола нават схапіў яго тады



*Мікола сьвіснуў доўга і працягліва...*



*Жук убачыў, як жаўнер навёў стрэльбу проста на яго...*

за хіб і павёў побач з сабою.

Жук, нарэшце, зразумеў, чаго ад яго хоча гаспадар, лізнуў руку і пакорна пацягнуўся ззаду, не астаючыся ні на крок.

Лес ужо прыбраўся зялёным лісьцем. Ад ві ьготнай зямлі так выразна адбіваліся розныя пахі. Пахла сьлядамі мышэй, зайцаў, сьлядамі нябачных насельнікаў густога лесу, і Жуку, — проста не сьцярпець, — хацелася дасачыць, зразумець сваім чулым носам кожны сьлед, кожны пах.

Але Мікола ішоў у глыб лесу, і пакорны сабака цягнуўся ззаду.

Мікола сьвіснуў доўга і працягліва. У адказ адгукнуліся ціхім сьвістам. І да шырокага камля, некім сьсечанага, абцярэбленага, але ня прыбранага нікім дрэва, пачалі зьбірацца людзі — хлапцы Міколінага веку.

Жук лёг паводаль. Ен выцягнуў галаву, паклаў яе на лапы. Мікола сказаў яму: „Пільнуй, Жук!“ — і Жук быў на варце.

Ён вушамі і сваім чулым носам прыслухаўся, прынюхваўся да кожнага шолаху, да кожнага паху. Пах тых ліхіх наездных людзей, што апошнім часам часта зьяўляліся ў вёсцы, Жук добра ведаў. З іхным прыходам неразлучны былі крыкі, плач, заядлы сабачы брэх, стук, грукат, сьвіны піск, часам страляніна, а потым панурая маўклівая злосьць людзей.

Гэты вечар Жуку давялося нядоўга вартаваць. Хлапцоў было менш, чым заўсёды і па рухах, па трывожным твары свайго гаспадара, Жук адчуваў яго неспакойны настрой. Няпрыметнымі ценямі пахаваліся ўсе ў гушчары лесу.

Цямнелася.

На кругавідзе паволі вылазіў на неба шырокі круглы месяц.

Жук ня любіў поўні. Яму заўсёды хацелася завыць, гледзячы, як узлазіць усё вышэй і быццам сьціскаецца, набіраючы сьвятла, жоўты круг.

Мікола і назад ішоў у тэй самай задуме. Раз загаварыў голасна.

— Уцякаць трэба... Так, Жук?

Жук павіляў хвастом і лізнуў яму руку.

Старая гаспадыня была таксама нечым устрывожана. Вячэра няпрыбраная заставалася на стале. Маці соўгалася па хаце. Яна то пачынала складаць хлеб, тую-сюю адзежынку ў торбачку, то кідалася абнімаць Міколу, хліпала, выцірала сьлёзы.



*Закасьцянела маці. Высахлі сьлёзы. Ня можа больш плакаць...*

Калі Жук нясумысьля трапіў ёй пад ногі, яна піхнула яго і выгнала за дзьверы. І Мікола не заступіўся.

Поўны месяц ужо высока вісеў на небе. Жук ня стрымаўся і, падняўшы морду, завыў тонкім, не сваім голасам,—брахаў ён заўсёды гулка і басавіта.

— Чаго ты выеш?! — замахнулася на яго гаспадыня, вышаўшы на ганак. — Пашоў! — і прагнала яго пад павець.

Жук доўга ляжаў пад павецьцю. Ён ужо больш ня выў, нават не брахаў, а толькі бурчэў нясьціхана. Потым, раптам устаў, увесь настабурчыўшыся. Зусім выразна і недалёка сярод цішыні ночы ён пачуў мяккі тупат конскіх капытоў і тарахценьне брычкі. Бліжэй і бліжэй. З заядлым брэхам кінуўся Жук пад вароты.

А з дзьвярэй, што вялі з хаты на двор, выбег Мікола. І тое, што заўсёды было зьвязана з начным наездам жандараў, адбылося і цяпер. Крыкі на двары, крыкі на вуліцы.

Жук брахаў і кідаўся, як шалёны. Грымнуў стрэл за гумном. Грымнуў стрэл на дварэ. Потым Жук убачыў, як жаўнер навёў стрэльбу проста на яго. Ён адчуў такі страх, што запоўз пад сьвіронак і бурчэў там, але вылазіць не адважваўся. Заядла брахалі сабакі ў вёсцы.

Чуў Жук плач гаспадыні, грубыя, злыя, чужыя галасы і раптам між іх пачуў Міколін голас. Яшчэ мацней плакала гаспадыня.

Жук падпоўз бліжэй да вылазу. Са двара галасы перакінуліся ў хату, на вуліцу.

Доўга цягнуўся час.

Жук, нарэшце, вылез і быццам, адчуваючы, што цяпер нельга брахаць, ён толькі пільна наставіў вушы. Поўны месяц заліваў двор сьвятлом.

Гаспадыня галасіла ўжо на вуліцы. Жук прашчаміўся пад варотамі.

Адпіхнулі старую маці ад сына, зьвязалі яму рукі і павезьлі з сабою. Затарахцела брычка. Коньнікі паскакалі наперад.

Ні разу не аставаўся Жук ад свайго гаспадара, але сёньня той страх, што загнаў яго пад сьвіронак, яшчэ вісеў над ім. Убіўшы хвост у ногі, пануры́ўшыся, глядзеў ён як шпарка коціцца брычка.

Закасьцянела маці. Высахлі сьлёзы. Ня можа больш плакаць. Стаіць і ня чуе, што гавораць, пытаюцца падышоўшыя цяпер людзі.

Трапіла яна поглядам на Жука і нібы ён самым блізкім быў для яе пасьля сына. Не да людзей, да сабакі загаварыла маці.

— Забралі Міколу, Жук. Чуеш, Жук?

Жук, вядома, не разумеў таго, што казала старая. Зразумеў, што памінае яна Міколу, і гук яе голасу быццам падштурхнуў яго. Ён забегаў, панюхаў сьляды, стаў, моцна пацягнуў носам паветра і панёсься на ўздагон брычцы.

Брычка ехала шпарка, але Жук умеў бегаць. Нейкі інстынкт самазахаваньня казаў яму, што трэба трымацца здалёк, і ён бег не дарогаю, а як воўк, туляючыся па кустох.

Нарэшце, брычка пад'ехала да будынку, што стаяў на шляху, збоку ад вялікага сяла. Там быў постэрунак, і ў вокнах сьвяціўся агонь.

Брычка стала, легіянэры выляцелі і, штурхаючы Міколу, павялі яго ў будынак.

Жук прытуліўся паводаль ля плоту, але так, што бачыў дзьверы ганку, аблітыя месячным сьвятлом.

Месяц ужо бялеў. Неба рабілася шэрым. Пераклікаліся пеўні ў сяле. Па шляху праскакаў адзін коньнік, другі. Першы спыніўся ля будынку, саскочыў з каня, хапаючыся, прывязаў яго да дрэва і схаваўся ў дзьвярох.

Здалёку, на шляху пачулася туркатаньне колаў па мяккай дарозе. Пры першых праменьнях сонца залюднела каля будынку. Стаяў абоз, бегалі і лаяліся жаўнеры.

Як быццам вітаючы ўсход сонца, на ўсходзе-ж вухнулі гарматы.

Жук ведаў гэты гул, гул падобны да грому, але ўсё-ж іншы, асобны. Ён ішоў быццам з зямлі, а не з гары, як гром.

Жук усё сачыў вачыма за ганкам. Жаўнеры і людзі ў цывільнай адзежы хадзілі і выходзілі з будынку, і Жук пільна прыглядаўся да кожнага чалавека, каб не прамінуць свайго гаспадара.

Жук і не заўважыў быў, як на яго набег рабенькі сабачка і захлынуўся ў тонкім брэху. Жук вышчарыў свае моцныя зубы,



*Міколу вялі два жандары*

настабурчыўся і зарычэў. Сабачка не адважыўся падыйсьці блізка, але зьвягаў і зьвягаў, кідаючыся на яго з усіх бакоў.

Нарэшце, Жук дачакаўся. Ён убачыў на ганку Міколу. Яго вялі два жаўнеры. Трэці чалавек у цывільнай адзежы прайшоў крыху за імі сьледам і штосьці крычаў злым шапялявым голасам.

Жук падняўся і так гыркнуў на назолу-сабачку, што той, завішчэўшы, перакуліўся ад страху на сьпіну і задрыгаў лапкамі. Жук патрушыў сьледам за Міколам...

*Канец у наступным нумары.*

---

М. ЧАРОТ

# Я УСПАМІНАЮ ГОД ДВАЦЦАТЫ

Я ўспамінаю год двацццаты:
Плылі крывёю ўсе дарогі,
Быў сьцяг над Беларусьсю
ўзьняты,—
Сьцяг бальшавіцкай перамогі...

Ліпнёвы дзень. Вайны пажары
У крыві людзкой даўно пагасьлі...
Дзе панскія былі абшары—
Квітнеюць з кожны днём колгасы.

Ударны тэмп. Працуюць шпарка
Сям'ёю дружнай колектывы...
У полі трактар і жняярка
Ні для каго цяпер ня дзіва.

А казкаю было нядаўна
Такі развой, такія штукі...
Сягоньня мараць аб комбайне,
Аб лепшых выніках навукі.

Чытальні-хаты, ясьлі, клюбы
Замест карчмы і гульняў дзікіх...

Няхай ліпнёвы дзень галубіць
Вольны прастор зямлі вялікай.

Савецкі край. Ты мілы сэрцу,
Да працы ты даеш натхненьне.
Я жыць хачу, а не памерці,
Каб радасьць несьці пакаленьню.

А вораг пільна, пільна сочыць
За кожным нашым сьмелым
крокам.
Ён сочыць днём, ён сочыць ноччу,
І блізка ёсьць ён, і далёка.

Таму і мы заўжды на варце
Павінны быць сваёй краіны...
Шчыльней ў рады з рабочым
станьце,—
Мы з гатай сілай—не загінем!

Ні інтэрвэнты, ні блёкады
І не паводка слоў хлусьлівых
Савецкага ня зрушаць ладу,
Бо наша моц—моц колектыву.

# ДЗЕЦІ ЗА МЯЖОЮ

**Чысьцільшчыкі ботаў**

— Як ты асьмеліўся сядзець тут? Забірай скрынку і—марш адсюль!

Так крычыць паліцэйскі на хлопчыка-чысьцільшчыка абутку.

Паліцыя ў Нью-Ёрку не дае гэтым дзецям спакою. Паліцыя патрабуе, каб яны плацілі падатак.

Сярод іх ёсьць і піонэры.

І вось нядаўна чысьцільшчыкі абутку ў Нью-Ёрку зрабілі дэмонстрацыю. Яны вывелі на вуліцу восем тысяч дзяцей.

Паліцыя спужалася, і цяпер чысьцільшчыкі могуць чысьціць абутак, дзе ім захочацца.





**Дзеці—нявольнікі**

*— Пакажы зубы.*

*— Колькі табе гадоў?*

*Гэта высокі чалавек аглядае на кірмашы 13-гадовага хлопчыка. Адбываецца гэта ў Кітаі. У горадзе Нанкіне. Хто гэта высокі чалавек, навошта ён аглядае так уважліва Кітайскага хлопчыка.*

*Гэта ня доктар. Гэта гандляр нявольнікамі. Ён купляе хлопчыка ў бацькоў. Бацьком няма чым карміць сына і самім няма чаго есьці. Вось яны і прадаюць хлопчыка.*

*Цяпер яго павязуць у Інда-Кітай. Там гаспадары—францускія капіталісты прымусяць яго працаваць 14 гадзін у дзень на чайных плянтацыях.*

# Сьмелы Дайг



**Я. Шварц.**

У Лібэрыі, у Афрыцы, жыў хлопчык. Яго звалі Дайг. Гэта быў дужы, шустры хлопчык. Яму было 7 гадоў. Ён вельмі добра бегаў, лазіў па дрэвах. Яшчэ ўмеў ён брахаць па-сабачаму. Ён быў маленькі, худы, а брахаў як вялікі сабака, грубым голасам.

Бацьку Дайга жылося вельмі цяжка. Ён працаваў на каучуковых [1]) плантацыях. Стаіць каля дрэва ў балоце, па калена ў вадзе. Зьбірае цягучы сок каучуковага дрэва. Прыганяты з бізуном сочыць за бацькам Дайга—ці добра ён працуе.

Гумавымі мячыкамі, галёшамі, шынамі і сотнямі другіх гумавых рэчаў напакаваны Лёнданскі магазын „Афрыканская кампанія“. Гума для гэтых рэчаў здабыта на балотах Лібэрыі. Бацька Дайга і яшчэ тысячы нэграў здабылі каучук, з якога зроблена гума.

[1]) Каучук—дрэва, з якога здабываюць гуму.



Аднаго разу прыганяты замахнуўся сваім бізуном на бацьку Дайга і закрычаў:—Працуй скарэй, лянівы сабака!

— Я не нявольнік,—адказаў бацька,—ня крычы на мяне.

Прыганяты сьцегануў бізуном бацьку, аж рэха пашло па балоце.

— Ты падпісаў умову з „Афрыканскай кампаніяй“ на пяць гадоў!—закрычаў прыганяты,—калі ты ня будзеш слухаць і рабіць, што скажуць, дык цябе закуюць у ланцугі.

Бацька сьціх.

— Ага, спужаўся сабака,—крыкнуў зноў прыганяты.

Бацька павярнуўся да яго, выхваціў у яго бізун і стукнуў прыганятага ручкаю па галаве. Потым кінуўся бегчы.

— Дайг, жонка! — крыкнуў бацька.—Я загіну... Я выцяў прыганятага па галаве. За гэта—сьмерць... Мяне пакараюць трэба ўцякаць!

— Сабакі знойдуць па сьлядох — прашаптала спужаная маці.

— За мною, бацька!—сказаў раптам Дайг,—я выратую цябе. Пабяжым па паветранай дарозе.

Дайг вельмі добра лазіў па-дрэвах. Вакол іх вёскі рос густы лес. Дайг ведаў дарогу, па якой можна прабрацца з дрэва на дрэва, нязлазячы ня зямлю.

Бацька згадзіўся.

Сабакі-сышчыкі памчаліся па сьлядох Дайга і яго бацькі. Каля дрэва, дзе пачыналася паветраная дарога, сабакі затрымаліся і завылі. Адзін з тых людзей, што даганялі Дайга з бацькам, узьлез на дрэва, паглядзеў у бінокаль.

— Нягоднік уцякае, як малпа, па дрэвах. Я бачу яго.

Хітрасьць Дайга не ўдалася. Іх даганялі. Дайг саскочыў на зямлю.

— Куды?—закрычаў перапалоханы бацька.

Дайг замест адказу забрахаў па-сабачаму. Сабакі сышчыкі адгукнуліся на яго брэх. Бацька



замёр на дрэве. Ен зразумеў намеры Дайга.

Сьмелы Дайг бег і брахаў як сабака. Сабакі пабеглі за ім. Тады Дайг зноў узлез на дрэва. Ён брахаў, бег па новай паветранай дарозе, якая вяла ў балота. Сабакі за ім. За сабакамі людзі. Дайг пабег па дрэвах над балотам. Сабакі падбеглі да вады і завылі. Далей бегчы нельга было.

Ні Дайг, ні яго бацька не загінулі. Яны ўцяклі. Але гэта выпадак. Нэгры Лібэрыі, Судана, Усходняй Афрыкі, індэйцы Бразіліі, індусы, малайцы тысячамі гінуць на баваўняных, каучуковых плянтацыях, у капальнях. Капіталісты зьдзекуюцца з іх.



# Ліст да барона




Верш А. ДАНЧЭНКІ.

I.

Вялікі палац меў
І многа меў грошай
Барон фон-Дэн-Гоша.
Але прышоў к нам
Кастрычнік чырвоны,—
Патурылі прэч
З палацу барона.
Уцёк барон
У Бэрлін, за кардон.
І ў палацах панскіх
багатых
Жывуць цяпер
Піонэры і акцябраты.
І шыльда ёсьць тут:
„Дзедбуд"



II.

Насупраць будынку—
Паштовая скрынка.
На ёй яскрава
Відаць аб'ява:
„Штодня тры разы
Вымаюцца лісты".

III.

Шум і гоман
У пакоі.
Што тут робіцца такое?
Гэта дзеці пішуць ліст
А-ж у Бэрлін, за кар-
дон...
Пачытае хай барон!
„Як жывецца за кар-
донам,
Фон-дэн-Гош бароне?
У вашым палацы ба-
гатым
Жывем цяпер мы—
Піонэры і акцябраты
Усё тут вучымся рабіць
І баронаў ня любіць.
А як вырасьцем, бароне,

Знойдзем вас і за
кардонам...
Ї тады апошні час
Праміне ўжо для вас"...

IV.

Ляціць цягнік,
Бяжыць цягнік,
Усё далей
Гоніць, гоніць.
Грукочуць рэйкі
Ї гудуць...
У паштовым
У вагонэ
Фон-Дэн-Гошу
Ліст вязуць.

V.

У Бэрліне ліст дасталі
Ды па адрасу паслалі.
Ї прыносіць лістаноша
Ліст барону фон-Дэн-
Гошу.
Глядзіць барон, чытае,
Ад злосьці аж шалее,
Крычыць барон, гукае:
„Гей, лёкай,
Як сьмееў ты, варона,
Прынесьці ліст мне
З-за кардону?"
Прышоў лёкай,
Сказаў лёкай:
„Што піонэр
З СССР
Прыслаў вам ліст,
Барон фон-Гоша,
Ніяк я ў тым ня ві-
нен, гэр,
Тут вінен лістаноша!.."

*(З украін скага).*



І. КАГАНОЎСКАЯ.



# Арэлэ

*(Апавяданьне з жыцьця дзяцей Заходняй Беларусі)*

Ціхі і маўклівы быў Арэлэ за працай. Твар яго заўсёды заклапочаны. Працаваў Арэлэ вучнем у абутковай майстэрні. Майстэрня гэта належала багатаму буржую.

Рабочыя вельмі любілі малога Арэлэ. Ён заўсёды любіў з імі гутарыць пра іхняе горкае жыцьцё. Толькі багаты гаспадар ня любіў Арэлэ. Лаяў яго і біў.

Часта дратва і абутак застывалі ў руках Арэлэ. Твар рабіўся яшчэ больш заклапочаным. Выцягвалася наперад рука з дратвай, і здавалася Арэлэ, што ён трымаў у руках ня дратву, а чырвоны сьцяг.

Старыя рабочыя жартавалі:

— Ты мусіць, Арэле, хочаш новы сьвет прыдумаць.

— Чаго сядзіш, шлімазал (недарэка), і завошта ты грошы атрымліваеш, — крычаў злосна гаспадар і штурхаў Арэлэ ў бок нагою.

Ішлі дні. Усё так-жа сядзеў Арэлэ ля варштату і працягваў доўгую дратву. Твар яго быў увесь час заклапочаны.

Але неспакойна было ў майстэрні сярод рабочых. Рабочыя асьцярожна пераглядваліся і ціха аб нечым гутарылі. Чыталі нейкія лістоўкі і хаваліся, як толькі зьяўляўся гаспадар.

Ужо некалькі разоў нейчая асьцярожная рука падкладвала комуністычныя лістоўкі ў кішэні рабочым, на варштаты. Кожны дзень забіралі іх рабочыя і несьлі дамоў, каб прачытаць.

Даведаўся аб гэтым гаспадар і ледзь ня лопнуў ад злосьці.

— Я злаўлю паршыўца. Я не дазволю, каб у маёй майстэрні

заводзілася бальшавіцкая зараза,—крычаў гаспадар.

Паліцэйскія агледзелі ўсіх рабочых. Нічога не знайшлі. На маўклівага малога Арэлэ ніхто не зьвярнуў увагі.

Лістоўкі ўсё-ж зьяўляліся...

Сёньня Арэлэ прышоў, як заўсёды, раней за ўсіх і асьцярожна раскладаў на варштаты комуністычныя лістоўкі. Але здарылася няшчасьце. Вялізарная, цяжкая рука паліцэйскага схапіла Арэлэ за плячо.

— Дык вось хто прыносіць лістоўкі!.. Ах ты бальшавіцкае шчанё,—крыкнуў паліцэйскі.

Арэлэ забралі ў дэфэнзыву.

У дэфэнзыве разьюшаны афіцэр дапытваў Арэлэ:

— Кажы, дзе браў лістоўкі?



*Цяжкая рука паліцэйскага схапіла Арэлэ за плячо.*

Арэлэ маўчаў, апусьціўшы ўніз галаву.

— Кажы, бо заб'ю, як сабаку,—крыкнуў афіцэр і стукнуў ботам у твар малому Арэлэ.

Арэлэ паваліўся на падлогу. Ручаіны крыві пацяклі ў яго з рота і носа...

— Хоць забеце, але не скажу,—ледзь чутна, але цьвёрда прамовіў Арэлэ.



*Працаваў Арэлэ вучнем у абутковай майстэрні.*

# НАГА дзядзькі ФРУХТЭНБЕРГА...

(*Праўдзівае здарэньне*)

В. Ляшэвіч.

Бум-бум! Бах! Тра-та-тах!— Вось у такія часы дзядзька Фрухтэнбэрг трапіў у войска.

Тады Польшча змагалася за сваю „незалежнасьць“, як казалі памешчыкі і фабрыканты, а за іхняй сьпіною стаялі памешчыкі і фабрыканты Францыі, Англіі і іншых краін.

Ад гэтых багацеяў-капіталістаў працоўныя Расіі адабралі зямлю, фабрыкі, чыгункі, капальні. Капіталісты страцілі свае багацьці ў Расіі і баяліся, што страцяць і яшчэ больш, калі рабочыя і сяляне ў іхных краінах зробяць тое-ж, што бальшавікі ў Расіі.

І таму яны выслалі на вайну супроць Савецкай Расіі белыя войскі Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі і іншых краін, што ўваходзілі раней у склад царскай Расіі.

Капіталісты Заходня-Эўрпэйскіх дзяржаў кіравалі гэтымі краінамі і дапамагалі ім войскам, зброяй, грашмі. Яны-ж арганізавалі супроць нас усіх рускіх белагвардзейцаў, якіх ня зьнішчыла рэволюцыя.

І вось у такі час, у 1920 годзе, дзядзька Фрухтэнбэрг трапіў у польскае войска. І яго, як тысячы другіх, благаславіў рабін, рэбэ Довід, на змаганьне за „айчыну“ — Польшчу супроць „барбараў“ - бальшавікоў. Гэта быў час, калі над Варшавай гатоў быў узьвіцца чырвоны сьцяг, калі ня толькі ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, але і ў самой Польшчы шмат дзе былі Саветы...

Бум! Бах! Тра-та-тах! — трое сутак разьлягаліся грымоты стрэлаў пад Варшавай...

Сярод батальёну польскай пяхоты, закураны дымам пораху, запырсканы гразёю змагаўся дзядзька Фрухтэнбэрг супроць бальшавікоў...

За каго змагаўся?

За тых, каго пакінуў у цеснай халупцы ў Марцінкавічах на Віленшчыне?

За таго, хто на Лодзінскай фабрыцы стаяў ля варштата? За таго, хто ў вёсцы зямлю потам зьліваў?

Не!

Не за іх, а за тых, хто жыве з працы гэтай, з крыві, з поту рабочых, сялян...

Вось за каго змагаўся дзядзька Фрухтэнбэрг у тыя дні. Не разумеў тады гэтага дзядзька Фрухтэнбэрг, бараніў, пакуль...

— Бах! — разарваўся блізка знарад, а што потым было—аб гэтым дзядзька Фрухтэнбэрг ужо ня памятаў.

У шпіталі дзядзька Фрухтэнбэрг хацеў нагой паварушыць і тут толькі заўважыў, што няма ў яго нагі... Скаціліся дзьве сьлязінкі з вачэй дзядзькі Фрухтэнбэрга...

А потым кульбы і дзеравяшка замянілі нагу, жывую чалавечую нагу.



*— Бах!—разарваўся бзізка знарад...*

Адгрымелі грымоты вайны. Зноў у Марцынкавічах дзядзька Фрухтэнбэрг, зноў у цеснай халупцы, дзе яшчэ больш няўтульна зрабілася: гаспадар—без нагі...

Міналі гады, расла „магутнасьць“ дзяржавы, толькі слабейшым рабіўся бязногі дзядзька Фрухтэнбэрг, толькі сохла Двэйра, яго жонка, галоднымі гадаваліся Мотл і Роза, яго дзеці...

І з кожным годам мацнеў націск на рабочых і сялян. Павялічвалася эксплёатацыя працоўных. Багацелі багацеі, беднелі беднякі. Расла „магутнасьць“ панскай дзяржавы.

Узьнімаліся рабочыя на барацьбу, паўставалі сяляне, пашыраліся лістоўкі комуністаў. Усё больш галеў гэрой вайны з бальшавікамі, інвалід Фрухтэнбэрг. У беспрасьвецьці пачынаў разумець тое, чаго раней не разумеў: за каго змагаўся, праз каго нагу страціў.

Вось яны тыя, праз каго інвалідам стаў: гмінная ўлада ападаткавала беспрацоўнага калеку Фрухтэнбэрга на 50 злотых.

Ня можа ўнесьці падатку дзядзька Фрухтэнбэрг. Адкуль у яго грошы такія? Мо' абшчына дапаможа? Дзе рабін той, што на вайну выпраўляў?

— Абшчына ня можа ўно-

сіць за ўсіх падаткаў,—так адказаў рабін Довід.

— Дзяржава перажывае моцны гаспадарчы крызіс. Ні скасаваць, ні зьменшыць падатку ня можам,—так адказаў у гміне войт, пан паручнік і начальнік Фрухтэнбэрга ў бойцы пад Варшаваю...

Падатак ня быў унесены.

І ў адзін дзень зьявіўся да дзядзькі Фрухтэнбэрга сэквэстратар (зборшчык падатку) для спагнаньня 50 злотых „звычайным парадкам“.

Гэты „звычайны парадак“ заключаецца ў тым, што ў бедняка, неакуратнага платніка падаткаў, апісваецца і забіраецца хатняя маемасьць на суму няўнесенага падатку.

Спакойна спаткаў дзядзька Фрухтэнбэрг пана сэквэстратара: з хаты выносіць няма чаго...

Так думаў дзядзька Фрухтэнбэрг сустракаючы пана-сэквэстратара. Няма чаго апісваць, няма чаго выносіць з хаты—убачыў гэта, зразумеў гэта пан сэквэстратар. І тады сілаю адабраў ён ад Фрухтэнбэрга... яго дзеравяную нагу. Дзеравяную нагу, якую дала яму дзяржава, тая „айчына“, за якую ён змагаўся ў 1920 годзе.

Вось яна панская ласка! Вось яна падзяка „айчыны“ за пралітую кроў!

Доўга змагаўся бедны калека за сваю нагу, пакусаў рукі сэквэстратару і паліцыянту, але сіла была на іх баку... Расправіўшыся з дзядзькам Фрухтэнбэргам, пан сэквэстратар гэтак-жа пачаў спаганяць падатак з удавы паплечніка ў змаганьні пад Варшаваю—Сары Каган.

Штурхнуў у грудзі пан сэквэстратар небараку Сару, адбіраючы апошнюю падушку, цягнучы коўдру з хворае дачкі—Леі...

І гэтага не магло стрымаць набалелае сэрца дзядзькі Фрухтэнбэрга... Схапіў ён жалезны прэнт і праз акно шпурнуў яго ў галаву пана сэквэстратара...

А што потым было—пра гэта раскажуць хіба сьцены астрогу, куды трапіў бязногі змагар за „незалежнасьць айчыны“ Польшчы...



*Сілаю адабраў ад Фрухтэнбэрга дзеравяную нагу.*




*Апавяданьне політвязьня СЬВІТКІ.*

*Малюнкі ПАШКЕВІЧА.*

Гэта быў першы дзень каталіцкага вялікадня. У аднэй з камэраў сумна сядзелі політвязьні*). Ані лусты хлеба з волі, аніводнае пасылкі.

За абедам сёрбалі падкалотку з пратухлай ржаной мукі, ад якой яшчэ больш падцягвала жываты,—а вечарам „гарохавы суп“, які складаўся з літра вады, 5-х гарохавых шалупінак і гнілое бульбы. Адным словам, ежа была сьвяточная.

У 5 гадзін, як заўсёды, адчыніліся дзьверы і ў камэру ўкаціўся, сапучы, як кормны парсюк, „старшы“. Палічыў сваімі заплыўшымі ад жыру вачыма вязьняў і моўчкі выкаціўся. Загрымелі, заляскалі завалы, засовы, забразгалі ключы, і дзень у вастрозе скончыўся.

У камэры было ціха, ціха... Кожны аб нечым думаў, пераносячыся ў думках у свае далёкія глухія вёскі, дзе без свайго кармільца пухла з голаду сям'я.

Праз адчыненае ўверсе маленькае вакенца з тоўстымі кратамі недзе з гораду несьліся ледзь чутныя гукі аркестры.

Гэта паны сьвяткавалі вялікдзень.

Чуючы гэтыя далёкія гукі, агнём кіпела сэрца вязьняў.

— Вось вяселяцца, напіўшыся людзкое крыві і сьлёз, тыраны,—прагаварыў адзін з політвязьняў, седзячы на „прычах“ [2]). — Эх, каб гэта іх цяпер у мае рукі... Сьціскаў ён свае жылістыя худыя кулакі.

Камэра маўчала... Нянавісьць да паноў засланяла сабою іншыя думкі. Пры кожным мацнейшым водгуку далёкае аркестры вязень, што ляжаў на „прычах“, неспакойна варочаўся з боку на бок, пасылаючы недзе ў прастор пякучыя, злыя праклёны...

[1]) Політычныя зьняволеныя.

[2]) „Прычы“—нары.

А аркестра грымела... Паны балявалі.

*
* *

Раптам дзікі крык прарэзаў паветра: „Таварышы! Ратуйце! Б'юць!“ І далей пачуліся прыдушаныя енкі...

Усе вязьні сарваліся з сваіх месцаў і кінуліся да вокнаў. Енкі несьліся з жаночага аддзелу... Нацягнутыя, як струны, нэрвы вязьняў гатовы былі лопнуць...

Усе дрыжалі.

„Далоў, прэч катаў!“—спалахнула порахам з вокнаў жанчын... І грэбля сарвалася.

Учапіўшыся за краты вакна, нібы хочучы іх вырваць з муру, крычалі ўсе, як звар'яцелыя. Гэта быў проста рык раненага зьвера ў клетцы... Крык накіпеўшай у грудзёх нянавісьці і болі. Паляцелі шыбы.., Адзін з вязьняў з нейкім дзікім шалам пачаў біць нагамі і куламі ў акутыя жалезам дзьверы. Усё зьмяшалася. І шалёныя крыкі сотні грудзей, і стукат udараў у дзьверы, і звон разьбітых шыбаў—усё гэта зьлівалася ў нейкі нячуваны крык.

Грымнулі трывожныя стрэлы перапалоханых вартаўнікоў, і, быццам у адказ на іх, пасыпаліся шыбы з другога, ужо крымінальнага павільёну. І адтуль віхураю вырвалася і далучылася да крыку політычных вязьняў дзікае і страшнае: „Сьмерць паном!“

Вастрог гудзеў... Грымеў... Стагнаў... Камэра адчынілася і ў яе з рэвольверамі і шашкамі ў руках уварваўся дзікі п'яны натоўп афіцэраў, жаўнераў, паліцыі і нейкіх узброеных цывільных і дазораў на чале з інспэктарам. Пачуліся нялюдзкія крыкі болю, стукат падаючых на падлогу цел... І азьвярэлыя выкрыкі ўзброеных.

Пырснула з разьбітых прыкладамі і шашкамі галоў кроў... Пачалася расправа.

А вастрог яшчэ ўсьцяж гудзеў і стагнаў ад крыкаў, па-



*Учапіўшыся за краты вакна, крычалі ўсе, як звар'яцелыя*

куль яны не перайшлі ў глухія стогны...

*
* *

Па камэрах і калідорах вастрогу жандары цалюткі дзень абмывалі аблепленыя крывёю сьцены, скрэблі і чысьцілі падлогу ад вялікіх чорна-чырвоных плямаў.

А ў сырых душных лёхах ляжалі няпрытомныя і з паразьбіванымі галовамі, з пакалечанымі тварамі, паламанымі рэбрамі і з паадбіванымі лёгкімі і пячонкамі, скутыя ланцугамі вязьні.



*Пачалася расправа...*

Ціха было ў вастрозе...
А паны балявалі...

# ЧЫРВОНЫ АБОЗ

Верш **В. Сулімчыка**

Агаліў палеткі
Сонцавейны жнівень,
Агаліў зубамі
Жатак стракатух...
Верасень маўклівы
Чырваніць калінай,
Верасень маўклівы
Прывітаў зямлю.

За зялёным лесам
Трактары грукочуць,
Ворыва канчаюць
Пад азімы клін...

Па сырой дарозе
Рыпаюць-гамоняць,
Рыпаюць-гамоняць
Цяжкія вазы.

Ціха крочаць коні,
Рыпаюць калёсы.
Разьлівае чырвань
У паветры сьцяг —
Гэта едуць з хлебам
Новыя абозы,
Хлеб вязе у горад
Ленінскі колгас.

П. Кунцэвіч.



# КОЛЕКТЫУНАЯ ДАПАМОГА

Нядоўга прастаяла харошае асеньняе надвор‘е. Пашлі дажджы. На вуліцах стала мокра і гразка.

Як сапсавалася надвор‘е, дык у нашай групе дваіх і не далічыліся: Петрыка і Марылькі. І пазаўчора ня было іх, і ўчора ня было іх у школе. Сёньня дзеці, якім па дарозе, забягалі па іх. Толькі ў школу іх не прывялі: у Петрыка чаравікі зусім дрэнныя, а ў Марылькі, апрача летніх сандаляў, на нагах нічога няма.

Як быць? Не заставацца-ж Петрыку і Марыльцы бяз вучэньня?

— Калі аб‘яўлена, каб усе вучыліся, дык ім трэба даць абутак,—сказаў Міхась.

— А Марылька заўсёды галодная, ёй трэба даваць дармова сьнеданьні і даць паліто к зіме,— дадала Вера.

— А хто будзе даваць?—запыталася настаўніца.

— Савецкая ўлада, — не падумаўшы, адказаў Міхась.

Не згадзіліся з ім дзеці.

— Аднэй савецкай уладзе цяжка дапамагчы. Мы дапаможам і камітэт садзейнасьці.

— А яшчэ ёсьць „Прыхільнік дзяцей“,—успомніў Кастусь,—і ён дапаможа.

Тут-жа парашылі скласьці сьпіс дзяцей беднаты сваёй групы, напісаць ліст у таварыства „Прыхільнік дзяцей“, зьвярнуцца ў камітэт садзейнасьці і да загадчыка школай за дапамогай. Перагаварыць з вучнямі старэйшых груп, каб паставіць платны вечар, а грошы аддаць на дапамогу бедным вучням. Так і зрабілі.

Праз некалькі дзён Петрык і Марылька прышлі ў школу ў новым абутку. Апрача таго, Марыльцы далі паліто і гарачыя сьнеданьні.

---

**1. Ці праведзена ў вашым школьным раёне ўсеагульнае навучаньне?**

**2. Што вы зрабілі для дапамогі ўсеагульнаму навучаньню.**

**3. Арганізуйце дапамогу дзецям беднаты.**

**4. Даведайцеся ў загадчыка, колькі абыходзіцца ўтрыманьне другагодніка.**

**5. Арганізуйце брыгады па дапамозе непасьпяваючым вучням.**

**6. Пра ўсю сваю работу пішэце ў рэдакцыю „Іскраў Ільліча“.**






*Нарыс В. С.*

*Малюнкі Ўл. СТАНКОВІЧА.*

Разам з ростам усяе соцыялістычнае гаспадаркі, расьце і сельская гаспадарка. Вёска, з яе дробнымі, жабрацкімі гаспадаркамі зусім мяняецца. Замест яе растуць і мацнеюць буйныя соцыялістычныя гаспадаркі — колгасы. Для колгасаў і саўгасаў патрэбны машыны. Машынамі лягчэй і хутчэй рабіць.

Раней у нас, на Беларусі, ня было заводаў, якія робяць машыны. Машыны мы прывозілі з-за мяжы. Цяпер мы будуем свае буйныя заводы.

У Гомелі нядаўна пабудован завод, які робіць машыны для сельскай гаспадаркі. Гэты завод завецца **Гомсельмаш.** Ён зьяўляецца адным з буйнейшых заводаў па вырабу сельскагаспадарчых машын.

Робяць на гэтым заводзе пяць тыпаў розных машын: **бульбамыйкі, бульбасартоўкі, сячкарні, канюшынасартоўкі, і сіласарэзкі.**

У сельскай гаспадарцы ёсьць адна вельмі важная галіна, якой партыя і ўрад аддаюць цяпер шмат увагі.

Гэта—жывёлагадоўля.

Калі ў нашых колгасах і саўгасах будзе шмат добрае жывёлы, дык мы будзем мець многа малочных і мясных прадуктаў. А фабрыкі і заводы будуць мець сыравіну.

Для таго, каб павялічыць колькасьць жывёлы, трэба забясьпечыць яе кармамі.

А ў нас корму не стае. Гэту цяжкасьць нам трэба перамагчы, і мы яе перамагаем.

Адным з самых танных і карысных кармоў для жывёлы зьяўляецца сілос.

Сьцябло кукурузы, сланэчнік, цьвёрдыя балотныя травы, бульбоўнік, бацьвіньне рэдзькі, буракоў, якое прападае дарэмна—

усё гэта можна ператварыць у добры корм—сілос. Ім можна пракарміць сотні тысяч жывёлы.

Калі замест сена даваць каровам сілос, зроблены з гэтай-жа травы, дык каровы ўдвая больш будуць даваць малака.

Зелень для сілосу трэба дробна парэзаць. Але ці-ж рукамі многа нарэжаш? Патрэбна машына-сіласарэзка.

Сіласарэзкай за гадзіну можна нарэзаць 4000 кілёграм зелені і ня толькі нарэзаць але і падаць уверх па трубах у сілосную вежу.

Чым больш выпусьціць такіх машын Гомсельмаш, тым больш сілосу змогуць загатовіць нашы колгасы і саўгасы.

Машына бульбасартоўка падзяляе бульбу на тры сарты: дробную, сярэднюю і буйную. Бульбу, якая ідзе на кармы, мыюць машынай бульбамыйкай.

Сячкарня рэжа з саломы сечку, якую зімою прыбаўляюць у корм жывёле. Канюшынасартоўка ачышчае насеньне канюшыны ад насеньня рознае іншае травы.

У барацьбе за кармы **машына наш лепшы памочнік.**

Вялікі завод Гомсельмаш! У чатырох доўгіх сьветлых памяшканьнях зьмяшчаюцца 7 цэхаў заводу. Цэхі—ліцейны, жалезазагатоўчы, кавальскі, лёгка-кацельны і дрэваапрацоўчы завуцца падрыхтоўчымі. Яны падрыхтоўваюць чыгунныя, ста-



лёвыя, жалезныя і дзеравяныя часткі машын.

Мэханічны цэх апрацоўвае мэталічныя часткі будучых машын. На іх робяць розныя нарэзы, выкручваюцца дзіркі.

З гатовых частак у зборным цэху складваюць машыны. Сабраную гатовую машыну пробуюць, ці спраўна яна. Калі машына спраўна, калі ўсе яе часткі працуюць добра, на ёй ставяць нумар і адпраўляюць у колгасы і саўгасы ўсяго нашага Савецкага Саюзу.

Гомсельмаш—адзін з заводаў, які абсталёван па апошняму слову тэхнікі.

Новыя машыны, якія працуюць на заводзе, патрабуюць уважлівых, умелых адносін да сябе. Таму на заводзе арганізаваны гурткі па вывучэньні тэхнікі. У гэтых гурткох рабочыя вучацца, як лепш працаваць, як лепш правіць машынай.

Акрамя гэтага, замацаваньне рабочых на сталую работу за сваімі варштатамі дае ім магчымасьць добра азнаёміцца з сваімі машынамі.

З кожным днём завод павялічвае выпуск машын. У 1932 годзе Гомсельмаш павінен даць колгасам і саўгасам Савецкага Саюзу **11000 сіласарэзак, 3000 сячкарняў і 8 з паловай тысяч** іншых машын.

Піонэры і акцябраты Гомсельмашу павінны дапамагчы сваім бацьком поўнасьцю выканаць заданьне па вырабу машын заводам.





# ПІОНЭРСКІ КОЛГАС

**А. Якімовіч**

*Урывак з аповесьці „ПЕРАМОГА“*

*Малюнкі Я. САМАТЫЯ*

...К канцу лета пляц каля курынага шалаша стракаціўся сотнямі пісклявых стварэньняў. Страшэнны гармідар узьнімалі яны тут, нейкую сваю бязладную музыку стваралі, асабліва, калі надыходзіла пара карміць іх. Кураняты не маглі стоўпіцца ў адным месцы, пішчом лезьлі ва ўсе шчыліны, на агароды, і хлопцы разрываліся, дагледаючы іх. Яны насілі ў драўляных вёдрах ваду, разьлівалі яе ў карытцы, часта зьмянялі на сьвежую, падгатаўлівалі крупяную кашу, даглядалі, каб усе кураняты былі накормлены і напоены. Але работы з кожным днём прыбывала і прыбывала. Кураняты расьлі, а разам з гэтым расла і работа. Аднак Сьцёпка ніколі не адчуваў стомы. Наадварот, яму здавалася, што тут якраз і не работа. Гэта ня тое, што араць камяністыя горы. Такая работа радавала яго, захапляла.

Аднаго разу Сьцёпка сказаў Юзіку:

— Чаму-б нам не завесьці яшчэ трусікаў?

— Ну, тут і гэтай чарадзе рады ня даць,—скрывіўся быў Юзік.

— Гэта не бяда. У нас ёсьць атрад, які пакуль што нічога нам не дапамагае. Калі кожны будзе працаваць так, як мы, тады сьмела можна да гэтай чарады прыбавіць яшчэ сотнюдругую трусікаў.

— І не адных трусіках,—зацікавіўся потым Юзік,—а качак, гусей.

— Ды мы тут свой піонэрскі колгас арганізуем, — загарэўся новымі размахамі работы Сьцёпка. Вось што. Давай, Юзік, пагаворым аб гэтым на савеце атраду. Калі згодзяцца праў-

леньне напэўна не пашкадуе нам грошай, каб купіць на развод трусікаў. Пра качак і гусей сёлета гаварыць позна. А вось трусікі—гэта можна.

— Ты праўду кажаш, Сьцёпка. Мы часта на савеце атраду думаем аб грамадзкай нагрузцы для піонэраў. Выбіраем іншы раз зусім бескарысную работу, а на тое, аб чым ты гаворыш, забываемся. Гэта-ж і будзе асновай работы атраду. Канешне, аб гэтым варта пагаварыць. І ня толькі пагаварыць—заразжа зрабіць.

* * *

...Стэфка заклікала дзяцей да парадку і пачала праводзіць сход.

— Сёньня нам, дзеці, трэба абмеркаваць вельмі важнае пытаньне,—пачала Стэфка.

Дзеці сьцішыліся. Цікава, якое-ж гэта важнае пытаньне? Яны даўно прасілі Стэфку арганізаваць паход у колгас „Новы Шлях“, пад граніцу, дзе можна будзе ўбачыць многа цікавага, асабліва-ж сапраўдных жывых жандараў, аб якіх яны так многа чулі апавяданьняў ад старэйшых. Мусіць, пра гэта і будзе сёньня гаворка?

— Наш атрад, дзеці, яшчэ дагэтуль не знайшоў свайго пэўнага месца ў колгасе,—гаварыла далей Стэфка.—А гэта вельмі кепска.



*Яны насілі ў драўляных вёдрах ваду, разьлівалі яе ў карыты, зьмянялі на сьвежую...*

— Праўда, што цікава. А дзе-ж ён наш атрад, калі не ў колгасе? — перапыніў яе Зьмітрок.

— Ціха, Зьмітрок, лепш паслухай, потым будзеш гаварыць, дакорліва ўпікнула яго Стэфка і казала далей:—Мы больш займаліся рознымі гутаркамі і гульнямі, чым карыснай работаю. Праўда, кожны з нас у асобку ня гуляе, сёе-тое робіць. Але ўвогуле нашай работы ня відаць. І вось мы на савеце атраду парашылі злучыць усю нашу работу ў адно. Мы парашылі ўзяць шэфства над гадаваньнем курэй і цялят у колгасе. Больш дакладна пра гэта нам раскажа Юзік. Мы яго і паслухаем. Толькі адна ўмова—слухаць уважліва і не перапыняць, як гэта робіць Зьмітрок.

— Я-ж і слухаю гэтак, уважліва, як ты кажаш,—не сьцярпеў, каб не адгаварыцца Зьмітрок.

— Ну, гавары, Юзік,—дала слова павадырка Юзіку!

Юзіка дзеці заўсёды слухалі лепш, чым нават Стэфку. Ён-жа адзін пакуль што з усіх вучыцца ў местачковай сямігодцы. Яшчэ няма ніводнага чалавека ў колгасе, які вучыўся больш за Юзіка. Апрача таго, Юзіку даручана такая работа, якую ня кожны мог-бы рабіць і з старэйшых. Яго работа ўжо набыла славу. Да яго часта прыяжджае сам аграном, гутарыць з ім, як з дарослым, навучае, дае розныя цікавыя кніжкі па гадоўлі курэй. Чаму-ж не паслухаць Юзіка.

Юзік узяў у рукі невялічкі кавалачак сьпісанай паперкі і пачаў расказваць.

— За гэта лета мы вывялі праз наш невялічкі інкубатар каля тысячы куранят. Гэта справа самая выгадная і прыбытковая для колгасу. Страты на курэй у нас пакуль што зусім невялікія. І вось уявеце сабе, колькі птушынага мяса мы зможам даць дзяржаве толькі за адно лета? Але-ж на гэтым абмежавацца нельга. Усё даводзіць аб тым, што гэтую справу мы павінны пашыраць і разьвіваць далей. Аднак за курамі патрэбен догляд. Пакуль што мы спраўляліся траха што ўдваіх—я і Сьцёпка. Цяпер-жа нам трудна даць рады, апрача таго, увосень я іду вучыцца. І мусіць, пойдзе таксама і Сьцёпка. Вось атраду і трэба падумаць, хто застанецца на наша месца.



*— Ды мы тут свой піонэрскі колгас організуем!*

— Мы!—загаманілі піонэры

— Я так і думаю, што вы. Увесь атрад павінен узяцца і адказваць за гэтую работу. Але на ўвесь атрад работы будзе малавата. Мы аб гэты таксама думалі на савеце і парашылі, каб піонэры ўзялі шэфства ня толькі над курамі, а і над цялятамі, якіх цяпер даглядаюць нашы маткі. Мы гэтым самым аслабанім ад работы сваіх матак, якія змогуць рабіць іншую работу.

— Вось гэта праўда! Чаму дагэтуль так не зрабілі?—не сьцярпеў Віця.

— Зробім, зробім, яшчэ ня позна,—сьцішала яго Стэфка.

— Ну, вось, здаецца і ўсё,— скончыў Юзік.

— А пра трусікаў?—напомніў яму Сьцёпка.

— Ага, я чуць не забыўся. Мы гаварылі з Міляўскім і ён нам дакляраваў адпусьціць грошы на равзод трусікаў,

— Ой, якія яны харошанькія— замітусілася піонэрка Волька.— Я бачыла іх у Сымона...

— Такіх, як у Сымона, мы разводзіць ня будзем,—казаў Юзік.—У яго трусікі дробныя і гадуюцца пад печкаю ў норах, Мы-ж развядзем вялікіх, буйнай пароды і наробім для іх клетак.

Трусікі, здавалася, найбольш зацікавілі ўсіх. Пасыпаліся выкрыкі, збор зашумеў.

Потым, калі Юзік скончыў, гаварылі ўсе. Трудна было супакоіць дзяцей. Гаварылі без парадку, колектыўна, але гэтае выказваньне было яснае: усе за тое, каб атрад зараз-жа ўзяўся за такую работу.

Калі ўсе нагаманіліся ў ахвоту, папрасіў слова і Сьцёпка.

— Даць Сьцёпку выказацца!

— Няхай гаворыць Сьцёпка!— згаджаліся ўсе, хоць ня было цярплівасьці слухаць тады, калі хацелася кожнаму гаварыць самому.

Сьцёпка нікалі ня выступаў на зборах атраду. Усё сароміўся, баўся, што нічога цікавага ня скажа і з яго ўсе будуць сьмяяцца. Так і сёньня. Увесь час ня спускаў ён з думак свае прапановы. Усё ніяк ня мог адважыцца, каб устаць і сказаць, што думае. І ўжо, калі канчаўся збор, Сьцёпка перамог сваю нясьмеласьць. Ён пачырванеў, загарэўшыся сьвежым румянцам, сэрца затахкала так, што вось-вось выскачыць з грудзей. У першую хвіліну Сьцёпка раптам як-бы забыўся, аб чым меўся



*Юзік узяў у рукі невялічкі кавалачак сьпісананай паперы і пачаў расказваць.*

гаварыць, ніяк ня мог вылучыць галоўнага з таго, аб чым думаў.

— Ну, мы слухаем, Сьцёпка напомніла яму Стэфка.

Перасохшы Сьцёпкаў язык раптам нібы адарваўся ад паднябеньня і заварушыўся. Ён сам, здавалася, ня чуў у гэты час свайго голасу, бо гаварыў блытана і нескладна. Сьцёпка больш

думаў, чым гаварыў, таму і няскладна ў яго выходзіла. Піонэры ў першыя хвіліны слухалі неахвотна. Нічога цікавага! Усе гэта ім вядома. Але, калі Сьцёпка загаварыў аб Галіцы, сяўбе і аб тым, што атрад павінен абвясьціць сябе ўдарным і выклікаць на гэта сваіх бацькоў, усе заціхлі. Многія лавілі Сьцёпкавы словы ня толькі вушамі, але і шырока разьзяўленымі ратамі.

— Мы ведаем,—канчаў сваю прапанову Сьцёпка,—па газэтах што піонэры ня толькі ўмеюць сьпяваць і маршыраваць, а і рабіць вялікую карысную работу. Атрады выклікаюць сваіх бацькоў—рабочых і колгасьнікаў—на спаборніцтва. І гэта значна дапамагае ў працы. Так павінны зрабіць і мы. У нас у колгасе работы многа. А ці-ж усе добра, па шчырасьці, да адказу працуюць?—Не,—сам-жа адказаў Сьцёпка на сваё запытаньне. А трэба, каб усе працавал як-раз да адказу. Тады мы і балота асушым, і засеяць пасьпеем. Мы возьмем на сябе абавязак акуратна даглядаць курэй і цялят, а бацькі—асушыць балота і да восені ўсеяцца. А раз бацькі падпішуць з намі такі дагавор, яны будуць старацца не паддацца нам, — скончыў Сьцёпка.

Цяпер уся чырвань з яго твару змылася, і Сьцёпка сам у сабе заўважыў вялікую пераменку: канчаў ён ня так, як пачынаў. Ніякай палахлівасьці і ценю не засталося.

Стэфка пахваліла прапанову Сьцёпкі, а піонэры выказалі сваю згоду з яго думкамі гучнымі воплескамі. І тут-жа Стэфка прагаласавала Сьцёпкаву прапанову. Усе згадзіліся. А для складаньня дагавору па соцспаборніцтву выбралі камісію, куды першым кандыдатам увайшоў Сьцёпка.

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: У. РАЦЭВІЧ. А. ЯКІМОВІЧ.